**Цана 300 мк.**

Год II. Вільня, 4 — 10 сакавіка 1923 г. № 5 (17).

# ВЫЗВАЛЕНЬНЕ НАРОДУ

## Тыднёвая Народная Газэтка

Орган П. Н. П. „Вызваленьне“ Віленскай, Наваградзкай і Палескай земляў.

| | | |
|---|---|---|
| Цана нумару 300 марак.<br>Газэтка каштуе з паштоваю перасылкаю, ў месяц 3000 марак.<br>Без паштовай перасылкі ў месяц 800 марак. | Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:<br>Вільня, Мастовая вул., 1, НародныДом „Одродзэне“. Тэл. 618.<br>Рэдакцыя адчынена ад 1—2 і 4—5 г. | **Абвесткі:**<br>Цэлая старонка . . . . . 50.000 мк.<br>½ старонкі . . . . . . 25.000 „<br>¼ „ . . . . . . 15.000 „<br>Дробныя абвесткі . . . па 500 „ за радок |

*Кіраўнік Рэдакцыі:* ЛЮДЗЬВІК ХОМІНСКІ. *Сябры Рэдакцыі:* С. ВАЯВОДЗКІ, Ф. ГАЛАВАЧ, С. БАЛІН, В. ШАКУН, Б. ІГНАТОВІЧ, Я. ДРАЗДОВІЧ, М. ДВАРЭЦКІ, А. ШАПЕЛЬ.

## Павятовы Зьезд

Сяброў і сымпатыкаў П. Н. П. „ВЫЗВАЛЕНЬНЕ“

**у Браслаўлі**

з прычыны важнае соймавае пр цы (справа арэндатараў) перанесена з 4-га сакавіка на

**НЯДЗЕЛЮ 11 га САКАВІКА**

Будуць паслы: **Ант. Галка і Ян Адамовіч**.

Вызваленцы, зьяўляйцеся грамадою.

## Увазе зямельных рабочых (парабкоў)

У гэтым нумары зьмяшчаем пачатак

**агульнага дагавору**

зробленга Профэсыянальным Саюзам Зямельных Рабочых Віленшчыны з Саюзам Земляўласьнікаў.

**Сягоньняшні нумар высылаем толькі тым падпісчыкам, якія заплацілі 2000 мк. за першы квартал.**

**Хто ня хоча мець пярэрвы ў адтрыміваньні газэткі, хай зараз жа вышле грошы**

## „Вызваленьне“ і беларускі рух.

Землі, на якіх мы жывём, Усходнія Землі Польскае Рэспублікі заселены некалькімі нацыянальнасьцямі: палякамі, беларусамі, літоўцамі, жыдамі. Кожная з гэтых нацыянальнасьцяў гаворыць асобнаю мовою, сваім спосабам хваліць Бога. З усіх гэтых народаў — народ, з якім найбліжэй жывём, найчасьцей спатыкаемся, а таксама найлепей разумеемся, зьяўляецца братнім нам народам — беларускім.

Некаторыя польскія палітычныя партыі, як эндэкі, „радзюкі“ („Рады людовыя“), а часам і „пястоўцы“, таксама й некаторыя нашыя ўраднікі, як большая часьць старост ў школьных інспэктароў, мацуюцца весьці гэткую палітыку, гэта значыць паступаць так каб беларусаў перарабіць на палякоў. Гэтыя палітычныя партыі і ўраднікі хочуць змусіць сялян беларусаў, каб яны запомнілі сваю родную мову, запомнілі свае нацыянальныя імкненьні, зракліся права пасылаць сваіх дзяцей у беларускія школы ды пачалі гаварыць толькі папольску і пасылаць дзяцей толькі ў польскія школы. Зразумела, што гэткая работа выклікае гнеў ў правадыроў беларускага руху. І ў гэтым сваім, зусім зразумелым гневе — яны робяць закід, што *усе* польскія палітычныя партыі, а ў тым ліку і „Вызваленьне“, хочуць беларусаў перарабіць на палякоў. Згаджаючыся, што гэты закід у адносінах да некаторых нашых партыяў зьяўляецца да вядомай меры разумным, мусім аднак-жа станоўча запротэставаць проці закідаў нашаму „Вызваленьню“.

Бо, чым жа зьяўляецца „Вызваленьне?“.

„Вызваленьне“ зьяўляецца тэю партыяй безьзямельнага і малазямельнага сялянства, якая перш за ўсё выступае за абарону інтарэсаў гэтага сялянства, якая маніцца падзяліць вялікія панскія двары, каб разлажыць справядлівей цяжары і падаткі, каб незаможным земляробам, па меры сіл, даць урадовую падмогу. А ці земляроб гэты — паляк, беларус, ці літовец — гэта рэч меншая. Хапае таго што яму робіцца блага, што ён пакрыўджаны, а „Вызваленьне“ з ўсёды стане за яго абарону. Дык і народныя беларускія масы ахвотна ідуць у нашыя рады і навет сярод „Вызваленскіх“ пасло у Варшаўскім Сойме маем сялян беларусаў. „Вызваленьне“ лічыць, што кожнаму народу трэба даць магчымасьць захаваць свае звычаі, сваю мову, а таксама сваю веру. Дзеля гэтага мы заўсёды выступалі і ў далейшым будзем выступаць проці ўсялякіх несправядлівасьцяў, якія робяцца ўраднікамі ў адносінах да беларускага руху. А ў Сойме разам з беларускімі пасламі будзем дамагацца, каб усюды, дзе гэтага хоча насяленьне, падчыняліся беларускія школы, а таксама, каб беларускім землям быў даны магчыма шырокі самўрад

А калі беларускі народ дасьпее настолькі, што зможа стварыць сваю самастоўную дзяржаву, дык „Вызваленьне“ разам з усім польскім працоўным народам будзе пры гэтым гатова заўсёды працягнуць братэрскую руку падмогі. Гэткім зяўляецца становішча нашай партыі. А людзі, які стараюцца запярэчыць яму, якія стараюцца давесьці, што „Вызваленьне“ хоча перарабіць беларусаў на палякоў — гэтыя людзі, альбо глыбока памыляюцца, альбо проста сьвядома і па злой волі маняць.

*С. С.*

# Пісьмы з Сойму.

II.

Мы ўжо пісалі й гаварылі на Конгрэсе аб чыншавіках. У Сойм пададзены сьпешны запрос і проект закону пасла Хомінскага. 6 лютага пасол Хомінскі выступаў у Сойме за сьпешнасьць свае прапазыцыі аб прадаўжэньні абароны дробных чыншавікоў і заплшнікаў. За сьпешнасьць дазваляецца гаварыць толькі 5 мінют. Наш пасол прадставіў наскольскі справа гэта важная — што ўжо 1 красавіка, з ласкі эндэкаў даўнейшага Устаноўчага Сойму маюць выкінуць на слату, ці сьнег тысячы людзей; што зараз жа трэба направіць іх долю, зрабіць магчымым жыцьцё паводлуг проекту сьпешнае прапазыцыі.

Проці сьпешнасьці прапазыцыі пасла Хомінскага гаварыў віленскі эндэк Рачкоўскі, выбраны паслом у Сойм з з Ліды на бяду таго насяленьня, якое за № 8 падало свае галасы. Пасол Рач-

